# Ніва

ISSN 0546—1960
ІНДЭКС 36671

БЕЛАРУСКІ ГРАМАДСКА-КУЛЬТУРНЫ ТЫДНЁВІК

№ 16 (1771) ГОД XXXV БЕЛАСТОК 22 КРАСАВІКА 1990 г. ЦАНА 600 зл.


## Бібліятэкарка ў Нарве

Тры гады кіруе гміннай публічнай бібліятэкай у Нарве Ала Сяткоўская. Раней працавала ў Новым Беразове і Трасцянцы. Пасля заканчэння двухгадовых бібліятэкарскіх курсаў у Беластоку пачала працаваць у Нарве.

— Калі пісаць пра кагосьці з Нарвы ў „Ніве", дык абавязкова пра нашу літвінку, Алу Сяткоўскую, — сказала мне сакратар гміннай управы ў Нарве Марыя Аверчук.

**Чаму літвінку?**

Аказваецца, Ала Сяткоўская родам з Ляшукоў, што ў Нараўчанскай гміне. Ды колькі дарогі да тых Ляшукоў з Нарвы? Ала едзе туды роварам, каб наведаць маму, усяго гадзіну якую. Але ў Ляшуках людзі дзекаюць і цекаюць, значыць, гавораць па-літвінску, інакш, чым у „цвёрдамоўнай" Нарве.

Я прыехаў у Нарву якраз у дзень заснавання Беларускага выбарчага камітэта. Таму гутарка ў нас з Алай спачатку пайшла пра выбары. У Нараўскай гміне пражывае каля чатырох з паловай тысяч чалавек. Гміна, так бы мовіць, „беларуская". Ёсць крыху палякаў. Жывуць у такіх вёсках, як Анцуты, Рагазы, Агароднікі. Ну, і таксама у самой Нарве.

— Цяжка будзе з выбарамі, — прызнаецца Ала Сяткоўская. — У нас тут не бракуе людзей разумных або працавітых, але... Народ да ўсяго знеахвочаны. Цяжка нам аб'яднацца. Каб мы былі крыху адважнейшыя, ці што...

У той дзень выбарчы камітэт у Нарве быў створаны.

— Сваю працу я пачала тут ад капітальнага рамонту, — апавядала Ала Сяткоўская. — Кніжкі пазычалі чытачам праз вокны, бо ў самое памяшканне бібліятэкі немагчыма было ўвайсці.

— А як у Нарве з чытачамі? Ці камусьці яшчэ хочацца чытаць кніжкі?

— Някепска. Пасля рамонту мы адкрылі спецыяльны аддзел кніжкі для дзяцей. Дзеці прыходзяць да нас вельмі ахвотна, пагледзяць на тое, што і ў школе ёсць бібліятэка. Можа таму, што тут адчуваюць сябе значна свабадней, чым у школе. Ды, зрэшты, мы шмат увагі прысвячаем працы з дзяцьмі. Ладзім тут вечарыны казак і апавяданняў, дэкламатарскія конкурсы, навагоднія ёлкі, сустрэчы з аўтарамі. Аднойчы ў нашым памяшканні праводзіўся ўрок беларускай мовы. У мінулым годзе ў дзіцячым аддзеле мы мелі 280 чытачоў. Мяркуючы па першым квартале гэтага года, мы будзем мець іх значна больш сёлета.

— А як выглядае справа ў цэлай гміне?

— У Нараўскай гміне мы маем два бібліятэчныя філіялы — у Ласінцы і Трасцянцы і 22 бібліятэчныя пункты ў іншых вёсках. Некаторыя пункты ў малых вёсачках мы вымушаны былі ліквідаваць, як, напрыклад, у Ваневе, Істоку і Храбустоўцы. У цэлай жа гміне мы маем больш за паўтары тысячы чытачоў. Так што ёсць для каго старацца і працаваць.

Незадоўга, трэба спадзявацца, бібліятэка атрымае новае памяшканне. У двухпавярховым будыначку, у якім будуць размешчаны бюро мясцовай пажарнай службы і памяшканні гміннага асяродка культуры, знойдзецца месца і для кніжкі. Праўда, ёсць думка, каб у тым будыначку абсталяваць прадшколле. Але малаверагодна, каб гмінная ўправа вырашыла памясціць дзяцей разам з пажарнікамі.

З Алай Сяткоўскай працуюць у бібліятэцы яшчэ Хрысціна Мялешка і Марыя Мацкевіч. У бібліятэцы мае сваё бюро дырэктар гміннага асяродка культуры ў Нарве Янка Грынявіцкі. „Вельмі добры і культурны хлопец. Многа нам дапамагае", — характарызуе Янку пані Ала.

Аддавацца сваёй працы — так можна коратка вызначыць жыццёвую пазіцыю Алы Сяткоўскай. Яна вельмі радуецца, што бібліятэка займее новае памяшканне. Але адначасова і занепакоена тымі зменамі, якія праводзіць Міністэрства культуры ў падпарадкаваных сабе ўстановах.

— Ходзяць чуткі, што фінансаванне бібліятэк мае перайсці пад самаўрады, — непакоіцца Ала Сяткоўская. — У бедных гмінах гэта практычна азначае, што бібліятэкі могуць заглохнуць, ліквідавацца. Бо на кніжку не знойдзецца грошай. Будуць болей неабходныя патрэбы. На маю думку, бібліятэкі павінны быць дзяржаўна-самаўрадавымі, гэта значыць, сродкі на іх утрыманне павінны ісці і з дзяржаўнага, і з гміннага фонду. Інакш не выйдзе. Дзяржава, скажам, павінна выкладаць грошы на заработную плату пра-

(Працяг на стар. 5)

## З ДРУКУ

### ЧАМУ Б НЕ ПАМАГЧЫ?

У 13 нумары „Літаратуры і мастацтва" ад 30 сакавіка г.г. з'явіўся артыкул „БДА — што гэта? Навіны з Беласточчыны", у якім даецца інфармацыя пра палітычны рух на Беласточчыне і Беларускае дэмакратычнае аб'яднанне. Аўтар (Г.Т.) заўважае, што замежным беларусам неабходна дапамога з боку БССР і піша:

„Зрэшты, дзеля справядлівасці варта адзначыць, што ўсе гэтыя негатыўныя з'явы (грамадска-гаспадарчага жыцця на Беласточчыне, якія ўпамінаюцца ў праекце праграмы Беларускага грамадскага камітэта „Грамада" — рэд.) выкліканы не толькі пасіўнасцю беластоцкіх беларусаў, ці абыякавасцю да іх патрэб палякаў. У поўнай ступені такое стаўленне да палітычных, эканамічных і культурных пытанняў жыцця беларускай меншасці на Падляшшы выклікана станам беларускай культуры і нацыянальнай самасвядомасці ў фармальна суверэннай (згодна Канстытуцыі) дзяржаве — БССР. У часы, калі ў сталіцы Беларусі не засталося не тое, што ніводнай беларускай школы, але нават і ніводнага класа, калі вярхушка наменклатуры, вясковая па паходжанні, не можа і двух слоў звязаць па-беларуску, калі прымаюцца ганебныя ўказы пра забарону спракаветнай нацыянальнай сімволікі, калі беларускамоўны друк мае мізэрны тыраж — наіўна чакаць асаблівага росквіту беларускасці ў іншай, чужой дзяржаве. А на добры толк, чаму б хоць бы невялікую частку сродкаў, выдзяляемых на розныя бязглузда-прэстыжныя праекты (тыпу „ракаўскага дыснейлэнду") не адпусціць на культурныя патрэбы суайчыннікаў за мяжой? Альбо замест друкавання розных напышліватраскучай макулатуры выдаць творы беластоцкіх пісьменнікаў ці працы па гісторыі гэтага краю?"



Фота Я. Чэрнякевіч

## На мяжы

— 4 —

# Калектывізацыя і пісьменнікі

Праўда, у нас за ліквідацыю „кулакоў як класа", узяліся ўлады запозна. Толькі ў другой палове чэрвеня, на некалькі дзён перад вайной, паявіліся ў некаторых вёсках грузавікі з поўнай энкавэдоўскай эскортай. Вось тады і схапілі родную сястру маёй маці і яе сям'ю з вёскі Семянаўка. Яшчэ паспелі схапіць сям-там, аднак масавага характару рэпрэсіі не мелі. Абяцаючы пачатак не атрымаў свайго развіцця, не дайшоў да кульмінацыі — перашкодзілі немцы. Новыя гаспадары кіраваліся зусім іншымі, чым саветы, крытэрыямі. У кожным выпадку, заможнасць селяніна не была прычынай праследавання. Пачалася трохгадовая эпоха новага нявольніцтва. Факт гэты знайшоў шырокае адлюстраванне ў беларускай літаратуры, таксама, зрэшты, як і антыкулацкія сталінскія рэпрэсіі. Розніца аднак у гэтым, што ў выпадку гітлераўскіх рэпрэсій пісьменнікі свой гнеў кіравалі супраць катаў, а ў выпадку сталінскіх рэпрэсій грамілі не катаў, а ахвяры.

Вярнуся аднак да калектывізацыі ў маёй акрузе ў 1940—41 гады. Не набрала яна размаху. Чым гэта вытлумачыць, не ведаю. Могуць браць пад увагу дзве прычыны. Першая — прыватная сялянская гаспадарка ў Заходняй Беларусі была больш эканамічна эфектыўная, чым калектыўная, а дзяржава, пэўна, гэта адчувала. Запамятаўся мне такі эпізод з 1939 года. Прыехаў у нашу вёску грузавік. Некалькі салдат абыйшлі ўсю вёску, паведаміўшы сялян, што яны збіраюць печаны хлеб для арміі. Сялянкі з кожнай хаты вынеслі па адным, а то і па некалькі вялікіх бохнаў хлеба. Многія з іх гаварылі: „Прабачце, пане афіцэр, што наш хлеб такі чорны". „Ничего, ничего, — адказваў дабрадушна афіцэр, — наши солдаты съедят. Спасибо за хлеб, спасибо".

Калі ўжо жанчыны разышліся, афіцэр сказаў сяржанту: „Чорт его знает, что об этом и думать. Кулаки они все, что ли? Смотри сколько хлеба натаскали. Ведь малая деревушка. Какой в конце концов был этот панский пригнёт, если у них столько хлеба? Ведь у нас столько хлеба не собрал бы с трех колхозов!".

Сэнс гэтых слоў зразумеў я многа, многа гадоў пасля вайны.

Другая прычына пэўнага замаруджання ў правядзенні калектывізацыі магла мець тактычны характар. Новая ўлада, якая трактавалася мясцовымі сялянамі як улада вызваліцеляў, не хацела гвалтоўнай калектывізацыяй супрацьстаўляць сабе сялянскія масы. Усё ж такі сям-там калгасы былі паўсілаю арганізаваны. У маёй акрузе бадай што найбліжэйшы быў створаны ў Новай Волі, аддалены ад Бандароў на 12 кіламетраў. Новая Воля мае найлепшую ў нашай акрузе зямлю, і магло б здаваць, што калгас будзе добры. Так аднак не сталася. Найлепшыя ў вёсцы сяляне не былі дапушчаны да кіраўніцтва калгасам. Не было сумнення, што іх прызначэннем станецца Сібір. Кіраўнікамі новай гаспадаркі сталі найгоршыя сяляне, людзі камедыйнага тыпу, тыя, што не былі ў стане кіраваць дагэтуль ні сваімі некалькімі гектарамі, ні сваімі сем'ямі. Якраз яны — людзі „без кала і двара" станавіліся новымі панамі. Горда ў асысце наязджаючых з раёна партыйных інструктараў і энкавэдыстаў разъязджалі па Новай Волі, загадваючы безупынна: хутчэй сеяць, хутчэй касіць, хутчэй капаць, хутчэй малаціць, хутчэй здаваць дзяржаве прадукцыю. І сапраўды, пасеялі і пасадзілі вельмі рана насуперак усялякай логіцы, але згодна з інструкцыямі і наказамі сеялі і садзілі амаль у веснавы снег.

А зямля ў Новай Волі чарназёмная, цяжкая. Прыняўшы ў свае ўлонне зерне і бульбу, яна заціснула іх пад уплывам сонца. Ураджай аказаўся напалову горшы, чым пры індывідуальнай гаспадарцы. У наступным годзе было яшчэ горш. Бульбу пасадзілі вельмі рана, але капалі яе ў снежні, пасля таго, як бязлітасна скаваў яе, а пасля літасціва адпусціў мароз. Зразумела, што вінаватыя ў паражэнні былі не бязглуздыя заправілы, а толькі „шкодніцкі кулацкі элемент". Над Новай Воляй павісла пагроза распраў і дэпартацый. Аднак улады не паспелі ажыццявіць свой злавесны намер. Прыйшлі немцы, і зямля ў Новай Волі вярнулася ў прыватныя цёплыя рукі.

А такія, як я, хадзілі ў школу і з вялікім жарам вывучалі „Пісьмо беларускага народа вялікаму Сталіну" і славуты сервілістычны верш Янкі Купалы.

Табе, правадыр, мае песні і думы
І шчырыя, шчырыя сэрца парывы.
Хто мог калі сніць, хто мог калі думаць,
Што буду я вольны, што буду шчаслівы.

Народныя паэты верна стаялі пры троне ворага народаў — Сталіна.

Іх творы даходзілі да айца народаў, і ён, ссучы люльку, з прымільнасцю і задаволенасцю думаў аб тых мільёнах сялян, якіх ашчаслівіў калгасным радасным жыццём.

**Алесь Барскі**

## З мінулага тыдня

**Пульс** — польскамоўны бюлетэнь Беларускага выбарчага камітэта ў Бельску-Падляшскім з'явіўся ў друку з датай 2 красавіка.

**Літоўскае насельніцтва Пуньска** (Сувальскае ваяводства) арганізавала мітынг у падтрымку незалежнасці Літвы. Пасля багаслужбы ў мясцовым касцёле, у якой удзельнічалі жыхары некалькіх навакольных гмін, сабраныя станоўча аднесліся да незалежніцкіх імкненняў суайчыннікаў з-за мяжы.

**Амерыканскі сенатар Альфонса д'Амата,** які хацеў наведаць Літву па запрашэнню літоўскіх улад і прабаваў перасячы граніцу ў Агародніках, быў вернуты назад савецкімі пагранічнікамі. Сенатар перадаў прысутнаму на граніцы міністру замежных спраў Літвы рэзалюцыю ў справе падтрымкі Сената ЗША для Літвы.

**Немцы,** згуртаваныя ў Грамадска-культурным таварыстве нямецкай меншасці ў Апольскай Сілезіі, выбралі сваім старшынёю Яна Кроля. У выбарчым сходзе ўдзельнічала 210 дэлегатаў з 38 гмінных праўленняў.

**IV Сусветны кангрэс ромаў** (цыганоў) адбыўся ў Ядвісіне каля Варшавы. Удзельнікі кангрэса звярнуліся да ўсіх урадаў з заклікам стварыць цыганам магчымасці культываваць сваю культуру і традыцыю. Прэзідэнтам Сусветнай рады ромаў абраны Райко Д'юрыч з Югаславіі.

**Сеймавая камісія нацыянальных і этнічных меншасцяў** падвяла вынікі свайго візіту на Беласточчыне і сустрэч з беларусамі і кашубамі. Камісія накіравала да ўрада прапановы ў справе дапамогі Міністэрства культуры і мастацтва пры заканчэнні пабудовы Музея беларускай культуры ў Гайнаўцы, прызначэння датацый на культываванне беларускіх традыцый і фальклору, звярнулася да Міністэрства нацыянальнай адукацыі аказаць фінансавую дапамогу пры пабудове школы ў Орлі.

**Чарговы беларускі выбарчы камітэт** стварыўся ў гміне Гайнаўка, а ўзначаліў яго Міраслаў Койла з Дубіноў.

**Тэрытарыяльная рада БДА** ўзнікла ў Гайнаўцы. Пяцьдзесят удзельнікаў заснавальніцкай канферэнцыі старшынёю рады выбрала Людмілу Кісляк.

**Праваслаўны манастыр у Супраслі** зноў стаў лаўрай, а яе архімандрытам з'яўляецца а. Мірон Хадакоўскі.

**Сейм** прыняў пастанову аб скасаванні цэнзуры і ўхваліў папраўкі да закона аб друку.

**Загарэлася царква ў Нарве** ў час багаслужбы ў Вялікі чацвер. Загінула адна асоба. Страты ацэньваюцца на 1 мільярд 200 мільёнаў злотых.

**Юбілей 70-годдзя** адзначаў у Гродне беларускі пісьменнік **Аляксей Карпюк,** ураджэнец вёскі Страшава каля Гарадка.

# Клопаты з роднай мовай

Пачатковыя школы, у якіх навучаецца беларуская мова, знаходзяцца ў двух гарадах і ў пятнаццаці гмінах Беласточчыны. Аналіз стану навучання беларускай мовы паказвае, што лік вучняў сістэматычна падае. Напрыклад, у 1983/84 навучальным годзе роднай мове вучылася 3708 вучняў, а зараз (1989/90) ужо толькі 3265. Лік навучэнцаў паменшыўся на 443 вучні (12 прац.). Прычыны гэтага наступныя: дэмаграфічная дэпрэсія на вёсцы, міграцыя вясковай моладзі ў гарады, абыякавыя адносіны многіх бацькоў да роднай мовы. У некаторых гмінах (Міхалова, Крынкі, Шудзялава) бацькі-беларусы не патрабуюць арганізаваць навучанне беларускай мовы для сваіх дзяцей.

У двух ліцэях (Бельск-Падляшскі і Гайнаўка) ёсць 22 класы, у якіх вучыцца 663 вучні.

Беларускую мову выкладае 88 настаўнікаў. У гэтым ліку 18 чалавек мае вышэйшую адукацыю. 44,6 прац. настаўнікаў маюць поўную кваліфікацыю для навучання беларускай мовы. Кадравая сітуацыя ў будучыні пагоршыцца, бо 20 настаўнікаў ужо ў пенсіённым узросце і кожны год 6—7 настаўнікаў адыходзіць на пенсію. Зараз амаль няма наплыву новых кадраў. Вельмі мала выпускнікоў кафедры беларускай філалогіі Варшаўскага універсітэта трапляе ў вясковыя школы.

Прынцып добраахвотнасці будзе і ў далейшым прычынай таго, што вучні могуць адмаўляцца ад урокаў роднай мовы, а бацькі з гэтым будуць мірыцца.

Што датычыць школьных будынкаў, то сітуацыя не такая ўжо і дрэнная. Не ведаю, адкуль узяў Яўген Мірановіч інфармацыю на гэтую тэму, пішучы ў бюлетэні „Нашы навіны" з лютага 1990 г. што: „Większość sal w szkołach wiejskich to wynajęte nieprzydatne do potrzeb szkolnictwa pomieszczenia". А фактычна выглядае гэта так: на 45 школ, у якіх навучаецца беларуская мова, вельмі добрыя ўмовы мае 18 школ, добрыя — 16, пасрэдныя — 9 і кепскія — 2 (у Орлі і Кляшчэлях). Ніводная школа не карыстаецца прыватнымі кватэрамі ці будынкамі. У гэтым годзе ў Саках у сувязі з капітальным рамонтам школы вучні вучацца ў часовых памяшканнях. У апошнія гады пабудавана або разбудавана 9 школ, будуюцца — 2 (Орля і Навакорнін) і разбудоўваюцца 3 школы. У найгоршых памяшкальных умовах працуе беларускі ліцэй у Гайнаўцы і школа ў Кляшчэлях.

Беларускія школы адчуваюць велізарны недахоп рознага тыпу дапаможнікаў, пачынаючы ад літаратуры, канчаючы на відэакасетах, ксераксах і іншых тэхнічных навінках. Такія дапаможнікі маглі б зрабіць урокі роднай мовы больш займальнымі, а гэта важнае, калі навучанне роднай мовы ў нас неабавязковае.

**Янка Зенюк**

Зорка
СТАРОНКА ДЛЯ ДЗЯЦЕЙ




*Нашы госці — дзеці і настаўнікі з Трасцянкі — разам з супрацоўнікамі „Нівы" на ганку нашай рэдакцыі.*

# Госці ў рэдакцыі

У адзін з першых красавіцкіх дзён, калі сонейка, нягледзячы на пару года, падаравала нам сапраўднае лета, наша рэдакцыя запоўнілася вучнямі. Прыехалі старшакласнікі з Трасцянкі са сваімі настаўнікамі на экскурсію ў Беласток.

— У такі дзень цяжка ўсядзець у класе, — сказала настаўніца беларускай мовы Галена Тапалянская. — Вось мы і вырашылі з вучнямі паехаць паглядзець Беласток.

У будынку Галоўнага праўлення Беларускага таварыства вучням пашчаслівілася спаткаць гісторыка Антося Мірановіча, які якраз нядаўна падрыхтаваў у „Ніву" цікавы матэрыял аб беларускай нацыянальнай сімволіцы. Гэтая справа, ды і наогул наша беларуская гісторыя вельмі цікавілі моладзь.

Калі дзеці зайшлі да нас, у рэдакцыю, першае, чым пахваліліся, — гэта сустрэчай з А. Мірановічам. Вялікае ўражанне зрабіла яна на дзецях.

У рэдакцыі школьнікі пазнаёміліся з супрацоўнікамі „Нівы", з яе галоўным рэдактарам, а „Зорку" засыпалі пытаннямі, як яна робіцца. Давялося нам расказваць, як рыхтуем матэрыял да друку, як „Ніва" друкуецца, дзеці першы раз убачылі матэрыялы на гранках-шпальтах, пагаварылі аб часе, які мінае ад падрыхтоўкі матэрыялу да яго выхаду. Дзеці з Трасцянкі прызналіся, што апошнім часам (можа, вясна ў гэтым вінавата) радзей пісалі пісьмы да „Зоркі". Але абяцалі паправіцца і трымаць ад гэтага дня больш цесны кантакт з нашай рэдакцыяй.

Трымаем за слова і чакаем пісем. І не толькі з Трасцянкі, але з усіх іншых школ, дзе дзеці вывучаюць беларускую мову і чытаюць „Зорку".

**Яніна Чэрнякевіч**
Фота аўтара

# АДДАЙ ТОЕ, ШТО ДОМА НЕ ПАКІНУЎ

**(БЕЛАРУСКАЯ НАРОДНАЯ КАЗКА)**

Пайшоў адзін чалавек на паляванне. Доўга хадзіў па лясах ды балотах — нічога не забіў. Нарэшце ўбачыў на адной выспе тура. Стаіць ён, прыгожы, як на малюнку. Стрэліў паляўнічы — тур падскочыў і памчаўся ў кусты. Паляўнічы за ім. Бег, бег і не агледзеўся, як трапіў у дрыгву.

Вырываецца ён з дрыгвы як можа, ды дзе там! Цягне яго дрыгва ўніз, засмоктвае. Вось ужо і па пахі засмактала... Бачыць паляўнічы — смерць прыйшла. Пачаў ён клікаць на дапамогу.

Раптам вырас перад ім сухенькі сівы дзядок з казлінаю барадою, у лапцях па сажню даўжынёю.

— Ратуй мяне, чалавеча! — просіцца ў яго паляўнічы.

— Добра, — кажа дзядок, — я цябе выратую, але не задарма: аддай мне тое, што дома не пакінуў.

Думаў, думаў паляўнічы — што ж ён дома не пакінуў? Нічога ўспомніць не мог. А тут ужо дрыгва траха не па самую шыю засмактала: толькі галава і рукі яшчэ наверсе. Ну што ж, таргавацца няма калі...

— Бяры, — кажа, — сабе тое, што я дома не пакінуў, толькі ратуй хутчэй!

— Не, гэта яшчэ не ўсё, — хіхікае дзядок. — Цяпер ты згодзішся, а потым адрачэшся.

— Не адракуся...

— А каб не адрокся, дай распіску.

Выняў дзядок з кішэні кавалак валовай шкуры і нож, падаў паляўнічаму:

— Разрэж мезенны палец і распішыся крывёю на гэтай шкуры. Так яно пэўней будзе.

Паляўнічы распісаўся на валовай шкуры, дзядок падхапіў яго, вынес на сухое месца і сам знік.

Ачухаўся паляўнічы ад ліхой прыгоды, абцёр збольшага гразь і пайшоў дахаты. І так яму маркотна зрабілася ў дарозе, што хоць плач: сэрца бяду вяшчуе.

Толькі ён пераступіў парог хаты, а яму і кажуць:

— Дзе ж ты прападаеш так доўга: жонка вунь сына нарадзіла!

Як пачуў гэта паляўнічы, дык і абамлеў: галава закружылася, уваччу памуцілася. Быў ён

(Працяг на стар. 10)

## Вершы Віктара Шведа

### ЧАГО НАЙБОЛЬШ НА СВЕЦЕ

Настаўніца пытае:
— Скажыце вы мне, дзеці,
Чаго найбольш мы маем
На гэтым нашым свеце?

— Дык розуму найболей, —
Дзяўчынка адказала. —
Не скардзімся ніколі,
Што маем яго мала.

### У АЎТОБУСЕ

Заўвагу пасажыр зрабіў
Хлапцу, каб усе чулі:
— Ты месца можа б уступіў
Старэнькае бабулі.

— Хлопец, сядзі, сядзі
здароў, —
Бабулька кажа прама. —
Як дажывеш маіх гадоў,
Дык пастаіш таксама.

### ВІНОЎНІК

Ішлі са школы дзеці
У тузанні няспынным.
— Чаму вы хлопца б'еце? —
Спыталася жанчына.

— Ён напісаў дыктоўку
На двойку, — кажуць з жалем.
— Гэта ж яму нялоўка.
— Мы ж ад яго спісалі.

### ЯГАДЫ

Шукаюць дзеці
вочкамі
Ягад паміж
лісточкамі.
— Вось ягада
адборная.
— Яна якая?
— Чорная.
— Тады чаму ж
чырвоная?
— Яна ж яшчэ
зялёная.

### ЧАМУ КОЛЯ СПІЦЬ У ШКОЛЕ?

Спытаў настаўнік Колю:
— Хацеў бы я дазнацца,
Чаму ты спіш у школе,
А не ў бацькоўскай хаце?

— Са сном я тут ваюю, —
Азваўся хлопец з жалем. —
Дрэмле ўва мне, мяркую,
Нейкі вялікі талент.

### РАЗМОВА БАЦЬКІ З СЫНАМ

— Калі ты другагоднікам
Астацца ў школе хочаш,
Тады ты мне, нягодніку,
Не пападай на вочы!

— Калі ацэнкі дрэнныя
Я прынясу дахаты,
Ці грошыкі кішэнныя
Ты выплаціш мне, тата?

### КУПІ МНЕ, ТАТКА, МАТАЦЫКЛ

— Ты матацыкл купі мне, тата,
Калі дазволіць твой бюджэт.
Я буду ездзіць без агляд кі
І пазнаваць шырокі свет.

— Які свет маеш на прыкмеце,
Мой дарагі сыночак Клім?
Ездзіць па гэтым хочаш свеце,
Ці можа ўжо па свеце тым?

# АДДАЙ ТОЕ, ШТО ДОМА НЕ ПАКІНУЎ

(Працяг са стар. 9)

чалавек бяздзетны. А тут — на табе! Дачакаўся сына.

Сабраліся госці на радзіны. П'юць, весяляцца. А бацька сядзіць, як чорная хмара, і ўсё плача. І хто яго ні пытае, чаго ён плача, — нікому нічога не кажа. Спачатку думалі, што гэта ён ад радасці: ведама, сына дачакаўся! А потым і пытаць перасталі.

Тым часам хлопчык расце як на дражджах. І такі ўдаўся прыгожы, разумны! Звалі яго Янкам. Аддалі яго бацькі ў навуку. Дык ён усіх сваіх аднагодкаў як бачыш абагнаў. Да ўсяго быў здатны: як да работы, так і да навукі.

Людзі цешацца з Янкі, зайздросцяць паляўнічаму. А бацька ўсё глядзіць на яго ды плача.

Вырас Янка, стройным дзяцюком стаў, хоць жані, а бацька ўсё што далей, то больш смуткуе.

Вось аднаго разу сын і пытаецца ў яго:

— Скажы мне, тата, чаму ты такі маркотны? Чаму ты ўсё, на мяне пазіраючы, плачаш? Хіба ж я не твой сын?

Выцер бацька слёзы і адказвае:

— Але, сынок, не мой ты... Праз гэта і плачу.

І расказаў сыну, як яго запрадаў сівому дзядку.

Выслухаў сын і кажа:

— Калі так, бацька, дык бывай здароў! Або галавой налажу, або тваю запрадажу ў нячыстай сілы адбяру. Не хачу, каб ты ўсё жыццё плакаў!

Сабраўся Янка, узяў лук, стрэлы, хлеба і падаўся ў дарогу.

Доўга ці нядоўга ішоў ён — дайшоў да рэчкі. Мясціна выдалася такая прыгожая, што далей і ісці не хочацца. „Ну што ж, адпачну тут крыху, палюбуюся", — падумаў Янка. Прылёг ён на беразе, за кустом, дастаў хлеб з торбы. І толькі сабраўся есці, як бачыць — ляціць чарада качак: адзінаццаць наперадзе, а дванаццатая з усяе сілы даганяе іх, і каля яе каршун круціцца. Вось-вось востраю дзюбай ударыць.

Схапіў Янка лук і пусціў стралу ў каршуна. Глядзіць — каршун каменем у балота падае, пер'е рассыпаючы, а качка проста да яго самога зніжаецца.

Апусцілася качка каля Янкі, ударылася дзюбкаю аб зямлю і стала перад ім дзяўчынаю, ды такою прыгожаю, што ні ў казцы сказаць, ні пяром апісаць.

Пакланілася дзяўчына Янку і кажа:

— Дзякую, добры малойча!

— Няма за што, — адказвае збянтэжаны Янка.

— Як няма за што? — дзівіцца дзяўчына. — Ты ж мяне ад смерці збавіў. Хто ты такі і куды ідзеш?

Янка ўсё пра сябе расказаў.

Паглядзела на яго дзяўчына спалохана і кажа:

— Дык гэта ж, як відаць, ты ідзеш да майго бацькі!

— А хто твой бацька?

— Вядзьмар.

— Не, — кажа Янка, — бацька мой запрадаў мяне нейкаму дзядку з доўгаю барадою, у лапцях па сажню даўжынёю...

— Гэта ён! Бацька мой у каго хочаш перакінецца. Цяпер ён панам ходзіць.

Спахмурнеў Янка, а дзяўчына кажа:

— Не бядуй. Без мяне ты загінеш, як ужо не адзін загінуў, а ўдваіх мы што-небудзь прыдумаем. Бывай здароў!

— А як жа цябе хоць зваць? — пытаецца Янка.

— Кася.

Перакінулася дзяўчына ў шэрую качку, узнялася і паляцела ўслед за сёстрамі.

Працяг будзе

## АДГАДАНКА



Ад паляўнічага ўцёк кудысьці сабака. Можа ты дапаможаш яго знайсці?

## ПАЗНАЁМІМСЯ

БССР, 220115, г. Мінск-115, вул. Кіжаватава, 78, кв. 186. Іра Пуйман (9 клас).

* ✻ *

БССР, 220115, г. Мінск-115, вул. Кіжаватава, 78, кв. 184. Іра Шык (6 клас).

* ✻ *

БССР, 220060, г. Мінск-60, вул. К. Лібкнехта, 112, кв. 18. Тома Малаш (7 клас).

* ✻ *

БССР, 220047, г. Мінск-47, вул. Ілімская, 29, кв. 214. Аня Чэкатоўская (6 клас).

* ✻ *

БССР, 220036, г. Мінск-36, вул. Волаха, 12, кв. 8. Таня Мамаева (8 клас).

* ✻ *

БССР, 220036, г. Мінск-36, 2 пер. Р. Люксембург, 8, кв. 14. Люда Тарасевіч (8 клас).

* ✻ *

БССР, 220036, г. Мінск-36, 2 пер. Р. Люксембург, 8, кв. 40. Оля Шынкевіч (8 клас).

## ВЯСЁЛЫ КУТОЧАК

* ✻ *

— Ты пра бацьку свайго не падумаў, калі краў, — гаворыць суддзя да абвінавачанага.

— Як жа не падумаў? Увесь час пра яго думаў, але там нічога такога не было, каб яму магло спатрэбіцца! — адказвае злодзей.

* ✻ *

— Ну што, адрамантаваў твой тата гадзіннік?

— Цэлы вечар сядзеў над ім.

— Дык што, ходзіць?

— Не. Але зязюля тры разы выглядала з яго і ў нас пыталася, якая гадзіна.

* ✻ *

— Як вас завуць, — пытаецца прафесар у студэнта на экзамене.

— Іванюк Ян.

— А чаго вы смяецеся?

— Цешуся, што на першае пытанне я ўжо адказаў правільна.

* ✻ *

У дзядзькі Сцяпана дванаццаць дзяцей. Аднойчы, калі ён вярнуўся з работы, жонка сказала:

— Сёння мне было асабліва цяжка з малымі. Шалелі, як ніколі. Асабліва Міхаська!

— Міхаська? — дзівіцца дзядзька Сцяпан. — А ў нас такі

* ✻ *

— У нашага дзеда такі нос, што на ім можа змясціцца пяць вераб'ёў.

— Але ж ты і выдумляеш!

— Ну, можа, трошкі і дадаў. Праўда, адзін стаяў толькі на адной назе.




### КАСЦЮШКА НАЗЫВАЎ СЯБЕ ЛІЦВІНАМ

У вялікай плеядзе выдатных барацьбітоў за свабоду ганаровае месца належыць ураджэнцу Беларусі Андрэю Тадэвушу Касцюшку. Чалавеку, які рабіў незабыўнае ўражанне сваёй энергіяй, храбрасцю, адданасцю ідэі свабоды. Яшчэ ў нашы дні выклікаюць захапленне яго арганізатарскія здольнасці, талент ваеннага інжынера, яго настойлівасць у пераадольванні, здавалася б, неадольных цяжкасцей.

Гісторыкамі замоўчвалася яго беларускае паходжанне, бо ў XVIII ст. **тэрыторыя сучаснай Беларусі называлася Літвой, а насельніцтва называла сябе ліцвінамі.** Акрамя таго, у XVIII ст. тых, хто прыняў каталіцкую веру, асабліва шляхту, пачалі называць палякамі. Таму і Касцюшку называлі то ліцвінам, то палякам. Толькі ў другой палове XIX ст. пачала шырока ўжывацца назва „беларус". Усё гэта ўносіла блытаніну пры вызначэнні этнічнай прыналежнасці жыхароў Беларусі.

Андрэй Тадэвуш Бенавентура Касцюшка нарадзіўся ў небагатай сям'і беларускага шляхціца, фамільны маёнтак якога знаходзіўся ў вёсцы Сяхновічы Кобрынскага павета (у цяперашні час Жабінкоўскі раён Брэсцкай вобласці). Дакладная дата яго нараджэння невядома, выказана меркаванне, што ён нарадзіўся 4 лютага 1746 г., аднак больш праўдападобным трэба лічыць, што нарадзіўся ён 30 лістапада 1745 г. Дату 4 лютага назваў польскі даследчык Т. Корзан зыходзячы з таго, што захавалася метрыка, з якой відаць, што яго хрысцілі ў Косаўскім касцёле 12 лютага 1746 г. Аднак ёсць падстава меркаваць, што спачатку яго хрысцілі ў праваслаўнай царкве і назвалі Андрэем у гонар апостала Андрэя Першазванага, свята якога прыпадае на 30 лістапада. Такое меркаванне грунтуецца таксама на тым, што яго маці Фёкла (Тэкля) была праваслаўнай веры і паходзіла з вядомага на Беларусі прозвішча Ратамскіх. У якасці пасагу Тэкля Ратамская атрымала маёнтак Дразы Барысаўскага павета. Яе родны брат Марцін быў падкаморым Аршанскага павета. Вядома, што дзяцей, раней хрышчаных у цэрквах, часта паўторна хрысцілі ў касцёлах або проста складалі фіктыўныя каталіцкія метрыкі. На працягу ўсяго свайго жыцця Касцюшка быў абыякавы ў дачыненні да рэлігійных пытанняў, нягледзячы на тое, што навучаўся ў каталіцкай канфесіянальнай школе.

Імкнучыся сказіць беларускае паходжанне Касцюшкі, нават сучасная Wielka Encyklopedia Powszechna паведамляе, што ён нібыта нарадзіўся на Валыні, якая з 1569 г. была далучана да Польшчы. Сам жа Касцюшка называў сябе ліцвінам, г. зн. так, як называлі сябе ў той час жыхары Беларусі.

Пераемнікам і прадаўжальнікам рэвалюцыйных ідэй Касцюшкі на Беларусі быў Кастусь Каліноўскі, кіраўнік народнага паўстання 1863 г. У рэдагаванай ім газеце „Сцяг волі" К. Каліноўскі змясціў сімвалы касцюшкоўскага паўстання — фігуру касінера (селяніна, узброенага касою) са сцягам, на якім намаляваны гербы Вялікага княства Літоўскага і Польшчы.

На Беларусі народ, ушаноўваючы памяць пра Касцюшку, складаў песні, у якіх гучалі заклікі змагацца за волю. Яшчэ на пачатку 60-х гадоў мінулага стагоддзя на Лепельшчыне была запісана, а пазней апублікавана песня пра Касцюшку — своеасаблівы лірыка-эпічны сказ народа пра свайго героя-заступніка. Паводле народнай версіі, Касцюшка загінуў у бітве. Нявыказаная туга і смутак гучаць у гэтых словах:

Вазьмі, маці, пяску жменю,
Пасей на каменю.
Калі той пясок узыйдзе,
Касцюшка з вайны прыйдзе.

Ляціць воран цераз мора,
А лятучы, крача,
А хто ж майго Касцюшачкі
Магілку аплача?

**(З кнігі Я. Юхо „За вольнасць нашу і вашу", выдадзенай у серыі „Нашы славутыя землякі").**



Адрас рэдакцыі: 15-950 Białystok, ul. Wesołowskiego 1, „Зорка".

# ПАРОДЫІ

## КАГО БАЯЦЦА

*Не баюся,*
*што нехта табе*
*аб каханні далдоніў.*
*Не баюся,*
*што нехта табе*
*пра нявернасць пляўузгнуў...*
**Генадзь Бураўкін**

Не баюся,
што нехта табе
штосьці на вуха гірдэчыў.
Не баюся,
што, можа, табе
пра мяне хто трындоніў.
І нядобра
вачыма цябе
аглядаў, бышцам еў.
Не баюся,
што хтосьці жыццё
наша ў пух распундэчыў,
Наша шчасце
завочна, як мог,
прад людзьмі разбумбоніў,
Раскілдэчыў,
раздындзіў,
растрынзаў, як толькі хацеў.
Не баюся,
не звабіць цябе
той спакутлівы ўлыдзень,
Карантыш,
што, напэўна, мяне
за мой рост шпірдоніць,
Праклінае
за плечы шырокія
і кулакі.
Не баюся,
бо верш ён, як я,
не шургне і за тыдзень.
А без верша
што зможа табе
ён, скажы, прадундоніць,
Прадылдоніць,
прамымзаць,
прамумзаць няўдачнік такі?

**Янусь Малец**

# НІЎКА



# АФАРЫЗМЫ

*

Добрым здаецца нам усё тое, чаго не разумеем.

*

Дабрыня не дае міласціны, дабрыня выконвае братэрскі ўчынак.

*

Душа — шаленства і полымя.

*

Лёс, так часта бязлітасны для вялікіх людзей, заўсёды беражліва абыходзіцца з тым, што ў іх было глыбокае і шчырае.

*

Свет узяў шлюб са старухай: вось французская рэвалюцыя з яе трыма лозунгамі.

**Васіль Разанаў**

# ЧАС, ТАРАС І ПАРНАС

— 1 —

Паважаны Тарасе!

Атрымалі Ваш верш „Рэчка Вуша". На вялікі жаль, надрукаваць яго не маем магчымасці. Ён слабы па зместу і па ўвасабленню гэтага зместу. У вершы няма ні дынамічнага разгортвання паэтычнай думкі, ні дасціпнага паэтычнага жарту. Параўнанні не новыя — яны ўзяты Вамі з класічных твораў! Чытайце болей класікаў.

З павагай — літкансультант А. Л. Дубок.

— 2 —

Праз пяць год.

З рэцэнзіі на першы зборнік Т. Парнасава.

„...слабы верш „Рэчка Вуша". Дынамічнае разгортванне паэтычнай думкі перашкаджае ўспрымаць яго змест. Узнікае жаданне прыпыніцца, паслухаць, аб чым гамоніць сведка стагоддзяў — рэчка Вуша, але паэт не дае нам гэтай магчымасці. Ён імчыць чытача, бы цягнік. Трэба, праўда, адзначыць дасціпны гумар верша і цікавыя параўнанні..."

Крытык А. Дубок.

— 3 —

Праз трыццаць гадоў.

З прадмовы да „Выбранага" Тараса Парнасава.

„...Яшчэ ў раннім вершы „Рака Вуша" яскрава бачны адметныя рысы вялікага таленту: дынамічнасць, дасціпны гумар. А якія цудоўныя паэтычныя параўнанні напаткалі чытачы ў гэтым вершы! Зараз бы такія вершы нашым маладым паэтам! Якая філасофія ў маленькім вершы!.."

Крытык Алесь Дубок.

**Марат Баскін**
*(З кнігі „Знаёмыя незнаёмцы")*

## МОДНЫМ СТАЛАСЯ, ВЯДОМА, ЖЫЦЬ У ЕЎРАПЕЙСКІМ ДОМЕ

Маладыя людзі скора
Уцякаюць з вёскі ў горад.
Кругагляд губляюць вузкі
З даўняй хаткі беларускай.
Пазбываюцца сялянства,
Прымыкаюць да мяшчанства.
Выракаюцца няспынна
Мовы роднай і айчыны.
Мроіцца ўжо ім, вядома,
Жыць у еўрапейскім доме.
Мо сусветным маналітам
Стануцца касмапаліты?

## МОДНІЦА

Вельмі модна ахрысцілі
Мы сваю дачку: Эміля.
Памаглі абавязкова
Вывучыць чужую мову,
Гарадскую ўзяць кватэру,
І пачаць рабіць кар'еру,
Падшукаць цяпер павінна
З модным прозвішчам мужчыну.
Будзе модная сямейка,
Доня будзе еўрапейкай.

**Віктар Швед**




# Ніва

Орган Галоўнага праўлення Беларускага грамадска-культурнага таварыства. Рэдагуе калектыў: Валянціна Жэшка (карэктар), Віталій Луба (галоўны рэдактар), Міраслава Лукша, Ян Максімюк, Яўгенія Палоцкая (кіраўнік канцылярыі), Уладзіслаў Петрук (мастак), Марыя Федарук (машыністка), Ада Чачуга (адказны сакратар), Яніна Чэрнякевіч (рэдактар „Зоркі").

„Niwa"
ul. Wesołowskiego 1
15-950 Białystok, skr. poczt. 149
tel. 232-41, 210-33.

Wydawca: Białoruskie Towarzystwo Społeczno-Kulturalne 15-062 Białystok, ul. Warszawska 11.

Druk: Białostockie Zakłady Graficzne w Białymstoku.

Warunki prenumeraty pocztowej na 1990 r.:

1. Prenumeratę pocztową (z dostawą do domu) zamawiać mogą mieszkańcy wsi, osad oraz miasteczek w których nie ma Oddziałów RSW a także osoby niepełnosprawne bez względu na miejsce zamieszkania.
2. Wpłaty na tę prenumeratę przyjmują urzędy pocztowe oraz doręczyciele.
3. Podstawowym okresem przyjmowania prenumeraty pocztowej jest kwartał.
4. Termin wpłat na prenumeratę pocztową na III kwartał 1990 r. upływa 20 maja 1990 r. włącznie.
5. Cena prenumeraty kwartalnej wynosi 7.800 + 3.250 zł za doręczanie.
6. Cena prenumeraty z wysyłką za granicę jest większa o 100% i przyjmowana jest tylko na okresy kwartalne. Wpłaty przyjmuje RSW „Prasa-Książka-Ruch" Centrala Kolportażu Prasy i Wydawnictw Warszawa, ul. Towarowa 28 Nr konta PBK XIII Oddział Warszawa 370044-1195-139-11.

Mieszkańcy miast mogą zamawiać prenumeratę indywidualną poprzez Oddziały RSW w następujących formach:

- prenumerata instytucjonalna (w zakładach pracy).
- rezerwacja w tzw. teczkach (we wszystkich kioskach).
- prenumerata własna RSW (w wytypowanych kioskach).

Zam. 320/90 r. U-3.